


# Весткі й Паведамленьні

інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня "ПАГОНЯ"

**Viestki j Paviedamleńni**

Электронны адрас: *viestki@mail.com*
*P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*

**№ 7(689)**
**Ліпень 2023 г.**


# Купальле-2023 у штаце Нью-Ёрк

Чаму нашае сьвята называецца Купальле? Відавочна, што слова "купець" азначае агонь або гарэць без агню, "купальле" – купацца ў вадзе, словазлучэньне "сабраліся да купы" азначае, што пэўнае кола людзей згуртавалася разам. У самой назве зашыфраваныя дзеяньні, зьвязаныя з агнём і вадой.

Нам нельга забываць нашую язычніцкую культуру, на якой заснаваны наш ўвесь фальклёр, каб не ператварыцца ў замбаваных людзей бяз роду і племені. Трэба адзначыць, што ўсе традыцыйныя абрадавя сьвяты беларусаў нясуць у сабе тэматыку пладародзьдзя, ураджаю і каханьня. Купальле ж прысьвечана ўслаўленьню сонца, найбольшаму росквіту прыроды і каханьню, прадаўжэньню роду. Фактычна Купальле – гэта шлюбаваньне Неба і Зямлі, сьвята ініцыяцыі дзяўчат і вясельля для стварэньня новых сем'яў.

Трэба адзначыць, што сёлета арганізатары Купальля Алесь Мазгавы і Ганна Шарко, Пётра й Алена Рыжыя ды Міхась Шаўчэнка падрыхтаваліся да Купальля як ніколі старанна. Перад пачаткам сьвята закаханыя парачкі павінны былі прайсьці праз браму, упрыгожаную ручнікамі, кветкамі й каляровымі агеньчыкамі, якія асабліва прыгожа сьвяцiліся ўначы, а перад ёю на лаўцы на лік тры парачкам трэба было павярнуцца ці ў процілеглыя бакі, або адзін да аднаго, і тады яны маглі пацалавацца.

Потым зрабілі агульны здымак, на які, праўда, ня ўсе пасьпелі прыбегчы. Затым прагучэла загукальная песьня:

Добры ве-ге-ге-чар,
Добры вечар
Добрым лю-гу-гу-дзям,
Клічам мы-гы-гы вас
Клічам мы вас
На Купа-га-га-льле...

Усе сабраліся каля складзенага вогнішча. Распарадчыцай сьвята гэтым разам была Алена Рыжая. Яна расказала прысутным аб сэмантыцы Купальля й купальскіх песень. Яна ж разам з Ганнай Шарко і запявала, я толькі падхоплівала сьпеў, каб дапамагчы тым, хто ня ведаў слоў. Абралі Купаліша й Купалінку. Купалішам быў наш беларус Максім Пясецкі, а яганай Купалінкай – прыгожая ўкраінка Валерыя Гармаш. Яны павіншавалі ўсіх са сьвятам Купальля. Купаліш пажадаў усім ачысьціцца старадаўнім купальскім агнём і вадою душу й цела, ды каб кожнаму пашчасьціла адшукаць адзіную папараць-кветку, кветку шчасьця, што цьвіце толькі ў гэтую ноч. Сказала сваю замову й Купалінка, каб лета было з дажджамі, грамамі, травамі на ціхае лета, буйнае зерне, на лён доўгі, на год добры, на перамогу ў вайне Украіне ды ўсім добрым людзям на добрае здароўе.

Пачаліся сьпеўныя карагоды, прысьвечаныя сонцу, як: "Сонейка! Ляцелі гусі зь Белае Русі, Соне-ге-йка!"

Кола купальскага дрэва падгарэла і, падаючы, указала на, мабыць, самую ма-

*заканчэньне на бачыне 2*



# Купальле-2023

*заканчэньне з бачыны 1*

ладую парачку статнага сьветлавалосага й блакітнавокага Марціна Рыжага ды ягоную невысокую каравокую й цёмнавалосую дзяўчынку. Паводле павер'я, яны ў хуткім часе могуць пашлюбавацца.

Пад час гульняў у "Цяцерку" нячысьцікі скралі Купалінку. Народ пачаў высьмейваць дружыну Князя:

"А што ў вас такія вочы,
Што драмаюць удзень і ўночы?
А куды яны прапалі,
Пакуль Купалінку скралі?
А што ў вас такое сьвята,
Што дружына разявата?
А чым так заняты былі,
Што дзяўчыну ўпусьцілі?
А што войска стаіць,
Чаму шукаць не бяжыць?"

Тут дружына Князя, схапіўшы паходні, пабегла шукаць Купалінку. Неўзабаве яе знайшлі й перадалі Князю.

Пасьля гульняў народ рушыў да возера. Ночка была цёмная. Месяца няма. Затое зоры бы ліхтарыкі ўзіраліся на нас зь нябесаў. А мы аголеныя ўваходзілі ў халодную ваду, бо надвор'е было прахалодным. Але разгарачоныя ад скокаў праз вогнішча целы азёрная вада ажно апякала. Весела апрануўшыся, мы вярнуліся да ўжо не такога яркага вогнішча.

Тым часам Рыжыя Пётра з Аленаю зварылі купальскі крупнік, які вараць з 27 лекавых траў, куды трэба дадаць нямат чорнага перцу, трошкі цынамону жменю індыйскага чаю, а на дзесяць літраў вады ўліць чатыры літры гарэлкі й





два літровых слоікі мёду. На Купальлі нельга ўжываць спіртовыя напоі, а крупнік, калі ад сьпеваў за ноч сядаюць галасавыя зьвязкі, то як вып'еш яго хоць пару глыткоў, голас зноў вяртаецца. Дарэчы, гэтым разам кожны з купальшчыкаў атрымаў конаўку з па-мастацку аздобленай папарацьцю выяваю Нью-Ёрка.

Хачу асобна адзначыць, што наш беларус Міхась Шаўчэнка сам сабе на белай кушулі, хоць і не традыцыйна, на сьпіне вышыў каляровымі стужачкамі беларускі арнамэнт ў выглядзе прарослага ромба з крыжыкам пасярод, а свае белыя красоўкі абшыў штучнымі кветкамі рамонка. Ягоная жонка статная ўкраінка Галя Швэд была ў бялюткай даўгой сукенцы, якая ўнізе была расшытая як бы вяночкам з натуральных кветак. Падазраю, што й гэтую прыгажосьць сваёй каханай нашыў сам Міхась.

Міхась ужо некалькі гадоў запар здымае на камэру нашыя Гуканьні вясны й Купальлі, дык ў гэты раз, акрамя таго што ён зрабіў прыгожую падсьветку нашай брамы каляровымі маленькімі лямпачкамі, ля якой цалаваліся закаханыя парачкі, а ў начы яна прыгожа сьвяцілася, Міхась таксама разьвесіў на дрэвах чырвныя, белыя й блакітныя ліхтарыкі, якія прыводзілі да даволі вялікай пляцоўкі, на якой ён сам зрабіў аграмадную васьміраговую славянскую зорку з мноствам замацаваных на ёй лямпачак чырвонага сьвятла. І ўся гэтая канструкцыя яшчэ й круцілася, чароўна асьвятляючы лістоту начнога лесу чырвоным сьвятлом. А там кожны, хто туды прыходзіў, атрымоўваў навушнікі таксама з падсьветкаю чырвонага сьвятла. Усё было вельмі прыгожа. Адно толькі засмучала, што кожны ў гэтых навушніках танчыў толькі сам з сабою... Калі ў 2021 годзе на Купальлі ўсе танчылі агулам ў купе ня парамі ня нашыя трыдыцыйныя танцы, нават ня полечку, ня танга, нават не кракавяк ці факстрот, а проста торгаліся, хто як ўмеў, хучэй па-амэрыканску, але ўсё ж ўсе разам і хоць нейкая камунікацыя там была. А тут кожны стаяў адзін і торгаўся, нібы танчыў. Праўда, у пачатку перад сьвятам, Ганна Шарко падвучыла некалькі параў танчыць танец "Верабей". Там было ўсё як мае быць. Потым пары станчылі й даволі ўдала гэты танец вакол вогнішча. Можа нехта скажа, што я ня маю рацыі на такую заўвагу, бо моладзі падабаліся такія танцы "сам з сабою", але ж Купальле мы для таго й ладзім, каб утвараліся новыя пары, а сямейныя пары гуртаваліся між сабою яшчэ больш.

Нехта танчыў у тых навушніках, нехта пайшоў спаць у намёты, іншыя сядзелі ля згасаючага вогнішча. Алесь Тур падкідваў сушняк, каб не патух агонь, мы сядзелі вакол яго, зачаравана гледзячы на полымя. Мой даўнішні сябр па "Талацэ" недзе з 1987 году скульптар Гэнік Лойка й я сьпявалі старажытныя купальскія песьні, якіх моладзь ніколі й ня чула.

Аднекуль зьявілася гітара ў руках Дзяніса, прозьвішча якога я ня ведаю, моладзь засьпявала песьні гурта "Ляпіс Трубецкой". Але ў хуткім часе яны разыйшліся па намётах. Мы з Гэнікам засталіся ля агню ўдвох. Не пасьпелі мы зьмежыць вei, як пачало ўзыходзіць сонца, якое варта б было сустракаць адпаведнымі сьпевамі.

Паціху людзі пачалі прачынацца. Іх чакала гарачая кава з блінамі, а сп-ва Рыжых прывезьлі ўсім марозіва. Але многім, як і мне, трэба было, нягледзячы на нядзелю, вяртацца на працу. Тыя, хто засталіся, мелі ўжо асобную праграму з гульнямі, футболам ды іншымі забавамі.

***Валянціна ЯКІМОВІЧ***

# Мітынг у Нью-Ёрку супраць расейскай ядзернай зброі ў Беларусі

У суботу 24 чэрвеня каля стэлы-скульптуры ў Ральф-Банч-Парку насупраць штаб-кватэры Аб'еднаных Нацыяў на Мангэтане прайшоў мітынг супраць разьмешчаньня расейскай ядзернай зброі ў Беларусі, якое за сьпінай беларускага народу праводзіцца рэжымам Пуціна са згоды рэжыму Лукашэнкі. Як вядома, Пуцін заявіў, што першыя ядзерные боегалоўкі ўжо завезеныя ў Беларусь, і "да канца лета" ўся мяркуемая колькасьць тактычнай ядзернай зброі будзе ў Беларусі. Аналіз гэтага рашэньня двух рэжымаў паказвае, што гэта найхутчэй прапагандовая і маніпуляцыйная гульня, але самая сутнасьць ядзернай зброі змушае ўспрымаць усе заявы з ёю зьвязаныя, надзвычай сур'ёзна. Таму прадстаўнікі беларускай грамады Амэрыкі выйшлі на пляцоўку перад будынкам ААН, каб выказаць свой пратэст супраць расейскай ядзернай зброі ў Беларусі, супраць акупацыі Беларусі расейскімі войскамі і гандлю незалежнасьцю, які вядзе рэжым Лукашэнкі.

Мітынг быў арганізваны Беларуска-Амэрыканскім Задзіночаннем (БАЗА) з удзелам Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня "Пагоня". Напачатку імпрэзы выступіў старшыня Згуртавання "Пагоня" сп. Віталь Зайка. Ён закрануў пытаньне небясьпекі разьмяшчэньня нуклеарнай зброі ў Беларусі, што так і не аправілася ад Чарнобыльскай бяды. Завоз той зброі вырашаны вузкай купкай людзей, што узурпавалі ўладу ў абодвых краінах, а народ Беларусі не прыймаў такога рашэньня, і яно абсалютна незаконнае з пункту гледжаньня міжнароднага права і Пагадненьня аб нераспаўсюджаньні ядзернай зброі. Акрамя ўсяго, у сьвятле падзеяў з бунтам наймітаў групы Вагнэра ясна, што ў выпадку падобных падзеяў можа наступіць поўны хаос, невядома, хто і як будзе кіраваць ядзерным гузікам. А ён не ў беларускіх руках, і міністар абароны Расеі Шайгу заявіў, што гэтая зброя не перадаецца Беларусі, а толькі разьмяшчаецца на яе тэрыторыі. І таму беларусы ў Амэрыцы выйшлі перад штаб-кватэрай Аб'еднаных Нацыяў, каб выказаць свой пратэст. "Мы спадзяемся і змагаемся, каб Беларусь стала вольнай, дэмакратычнай, сапраўды незалежнай і сапраўды беларускай краінай. Не – расейскай ядзернай зброі! Свабоду Беларусі! Далоў расейскую акупацыю Беларусі!"

Затым выступіў намесьнік старшыні Нью-Ёрскага аддзелу БАЗА сп. Махал Чаропка, які падкрэсьліў, што разьмешчаньне расейскай ядзернай зброі ставіць Беларусь пад магчымы ўдар у адказ, у тым выпадку, калі Расея вырашыць прымяніць яе пад час канфлікту ва Ўкраіне. "Мы ня можам стаяць убаку і ня выказаць нашую волю. Беларусь была бязъядзернай дзяржавай, і такой павінна застацца. Народу Беларусі ня трэба новая ядзерная пагроза!"




Сярод прысутных быў таксама сп. Батыр Барамангаеў, старшыня Кангрэсу айрат-калмыцкага народу. Ён выказаў жаданьне выступіць і коратка распавёў пра сябе. Ён уваходзіць у Лігу Вольных Нацыяў, якая змагаецца супраць расейскага каляніяльнага ўціску на нерасейскія народы. Кангрэс калмыцкага народу асудзіў агрэсію супраць Украіны і заклікаў калмыкаў адмовіцца ад удзелу ў злачыннай вайне. Рэжым Пуціна узурпаваў уладу і свавольна эксплюатуе прыродныя рэсурсы, што пераважна знаходзяцца на абшарах нерасейскіх народаў, якія ня маюць доступу да прыбыткаў, што атрымлівае рэжым з іхных земляў. Культура нерасейскіх народаў вынішчаецца, ідзе татальная асыміляцыя і стымуляваньне расейскай міграцыі на нерасейскія землі. Выратаваньнем можа быць толькі здабыцьцё сувэрэнітэту і дасягненьне незалежнасьці ад Расеі. І ў гэтым народы, такія як калмыкі, бураты, тувінцы, якуты, татары, башкіры ды шэраг іншых, ускладаюць спадзеў на падтрымку міжнароднай спольнасьці і народаў, што ня так даўно былі паняволеныя. Сп. Барамангаеў адзначыў, што ён быў уражаны выступленьнямі беларускага народу за свабоду ў 2020 годзе і зразумеў, што беларусы ня ёсьць хаўрусьнікамі й паслугачамі расейцаў, а народам, што імкнецца зрынуць дыктатуру прарасейскага тырана Лукашэнкі, і даведаўся, што шмат беларусаў аддалі за гэта свае жыцьці. Прамоўца падкрэсьліў, што абсалютна падтрымлівае забарону на завоз расейскіх ядзерных ракетаў у Беларусь, і адзначыў, што гэта ёсьць працяг палітыкі маніпуляцый і шантажу, якімі характэрызуецца праўленьне Пуціна і ягоная злачынная вайна супраць народу Ўкраіны.

Затым выступіла старшыня Нью-Ёркскага аддзелу БАЗА сп-ня Аксана Пятрашка, якая адзначыла: "Расейская акупацыя і завоз расейскай ядзернай зброі зьяўляецца пагрозай для існаваньня нашай Бацькаўшчыны-Беларусі і яе народу. І менавіта цяпер важна аб'яднацца ўсім беларусам, незалежна ад палітычных поглядаў і партыйнай прыналежнасьці. Гісторыя даўно паказвае, што беларусам не патрэбны такі фальшывы "брат", якім ёсьць Расея. Беларускі народ – гэта не Лукашэнка. Мы мусім самыя вырашаць свой лёс, а не дыктатары, што згаворваюцца за сьпінай народу!"

Таксама слова бралі сябар Рады БНР сп-ня Ганна Сурмач і актывіст сп. Андрэй Малецкі, якія таксама заклікалі да недапушчэньня расейскай ядзернай зброі ў Беларусі і патрабаваньня вываду ўсіх расейскіх войскаў зь Беларусі.

Удзельнікі імпрэзы трымалі плякаты супраць расейскай ядзернай зброі ў Беларусі, выгукалі лёзунгі: "NO to Russian Nukes in Belarus!", "Freedom to Belarus!", "Russia out of Belarus!"

**Віталь ЗАЙКА**

# Прэзэнтацыя кнігі Міхася Кавыля

У нядзелю 4 чэрвеня 2023 году ў грамадзкай залі пры Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне адбылася прэзэнтацыя кнігі твораў "Выбранае" беларускага паэта Міхася Кавыля ў сэрыі "Спадчына: Агледзіны "Бібліятэкі Бацькаўшчыны". Напачатку імпрэзы выступіў намесьнік старшыні Нью-Ёрскага аддзелу БАЗА сп. Міхась Чаропка. Ён адзначыў, што Міхась Кавыль гэта адна са значных творчых постацяў беларускай эміграцыі, ягоныя творы выходзілі ў выдавецкай сэрыі БІНіМ поруч з творамі Н. Арсеньневай, У. Дудзіцкага, Я. Юхнаўца. Каб даць шырэйшы кантэкст творчасьці Міхася Кавыля, сп. Чаропка зрабіў кароткую прэзэнтацыю пра беларускіх літаратараў на эміграцыі.

Затым выступіў укладальнік кнігі, літаратуразнаўца і супрацоўнік Нью-Ёркскай Публічнай Бібліятэкі сп. Лявон Юрэвіч. Ён адзначыў, што кніга Міхася Кавыля была падрыхтаваная яшчэ ў 2020 годзе, але падзеі таго году і наступны ўздым і ягонае задушэньне адклалі выхад кнігі. На тытульным аркушы поруч з ягоным імём мусіць стаяць імя сп-ні Натальлі Гардзіенкі як суўкладальніцы, але дзеля патэнцыйнага перасьледу яно не было зьмешчанае, бо кніга рыхтавалася для распаўсюду на Бацькаўшчыне. У міжчасе сп-ня Гардзіенка была звольненая з працы і змушаная эміграваць. Кніга выйшла ў Беластоку ў выдавецтве "Камунікат", і ў цяперашніх умовах перасылка кнігі ў Беларусь досыць праблематычная.

Затым са словам пра кнігу выступіла сп-ня Натальля Гардзіенка, што завітала на прэзэнтацыю праездам зь Вільні. Прамоўца адзначыла, што дзіўна й недарэчна тое, што кніга пабачыла сьвет толькі сёлета. У Амэрыцы вершы Кавыля выходзілі ў сэрыі БІНіМ, але ў Беларусі вершы асобна не выходзілі, і паэт быў там мала вядомы. Творы Міхася Кавыля зьяўляюцца адлюстраваньнем жыцьця беларускай эміграцыі паваеннай хвалі. Сам аўтар, сапраўднае імя якога Язэп Лешчанка, а псэўдонім у савецкія часы Язэп Маёвы, нарадзіўся ў 1915 годзе на Случчыне ў шматдзетнай сям'і, ад мала зьведаў цяжкую сялянскую працу. Выступоўца коратка распавяла пра жыцьцёвы шлях паэта да прыезду ў Амэрыку, куды ён прыехаў на прапанову сьвятара а. Мікалая Лапіцкага. Тут ён працаваў на фабрыках і ў 1980 годзе выйшаў на пэнсію. Па словах самога Кавыля, "амаль 90% маіх твораў напісаныя ў Амэрыцы". Кавыль быў сябрам Беларускага Кангрэсовага Камітэту, быў віцэ-старшынём на 1-м Кангрэсе Беларусаў Амэрыкі ў лютым 1951 г., рэдагаваў часапіс "Беларуская думка". Як многія іншыя эмігранты, Кавыль адуваў сябе зьвяном культурнага ланцуга пакаленьняў і бачыў сваю адказнасьць у захаваньні памяці пра мінулае ў наступных пакаленьняў. Ягоная мара – "каб у згараванай Беларусі на сьвятынях ажылі крыжы". Прамоўца адзначыла, што ў зборнік увайшлі ня ўсе творы Кавыля, але разам з тым гэта ёсьць прадстаўнічая калекцыя ягонай паэзіі.

Затым са словам пра кнігу Кавыля і абставіны, што папярэднічалі яе выхаду, распавяла сябар Рады БНР і былая дырэктарка Архіву Літаратуры і Мастацтва ў Менску сп-ня Ганна Сурмач. Менавіта ў гэтым архіве да звальненьня працавала Н. Гардзіенка, і цяпер ён фактычна разгромлены, бо ўспрымаецца ўладамі як асяродак беларускасьці й праз гэта – як варожы. Зволненая дырэктарка архіву Ганна Запартыка, якая плённа супрацоўнічала зь БІНіМам, зволнены яе сын, што таксама працаваў у архіве. Сп-ня Сурмач адзначыла, што сп-ні Гардзіенка і сп. Юрэвічу належыцца вялікая падзяка за працу па выданьні й папулярызацыі літаратуры й гісторыі эміграцыі, і таксама важна, што на эміграцыі працягваюць выходзіць выданьні, такія як альманах "Беларус" пад рэдакцыяй сп. Марата Клакоцкага. Таксама выдатна, што ў Беластоку ёсьць выдавецтва Камунікат, што друкуе беларускую літаратуру – і цяпер у выніку выезду шэрагу выдаўцоў на міграцыю ў Польшчы аднавілася шмат выдавецкіх ініцыятываў.

Сп-ня Натальля Гардзіенка прачытала напрыканцы імрэзы некалькі вершаў Міхася Кавыля: "Я жыву ні бедна, ні багата..." і "Божа наш, твае мы просім ласкі".

Пасьля заканчэньня афіцыйнай часткі імрэзы прысутныя маглі набыць новую кнігу, атрымаць аўтографы ўкладальнікаў і пагутарыць зь імі. Таксама для ўдзельнікаў імпрэзы былі падрыхтаваныя сьціплыя пачастункі, за якімі яны маглі працягнуць знаёмствы і гутаркі.

Арганізатарамі імпрэзы былі Беларуская Фундацыя Крачэўскага, Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва (БІНіМ), парафія Сьв. Кірылы Тураўскага і Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне (БАЗА).

***Віталь ЗАЙКА***

**Уплаты ў Згуртаваньне**
**Складкі й ахвяраваньні:**

Д. Дземчанка ............60
Н. Зуеўская ..............60
М. Макарчык ............60
С. Радзько ...............60

**Шчыры дзякуй!**

Аб імпрэзах, ладжаных Беларуска-Амэрыканскім Згуртаваньнем "Пагоня", а таксама пра важныя бягучыя падзеі ў жыцьці арганізацыі можна даведацца наведаўшы старонку "Пагоні" ў Фэйсбуку: ***https://www.facebook.com/groups/134811029970802/***

**Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні*:**

Д. Дземчанка ..............30
Н. Зуеўская ................30
М. Макарчык ..............30

**Усім шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў Згуртаваньне "Пагоня" шліце на адрас:**
***P. O. Box 572***
***New York, NY 10113***
**Чэкі, калі ласка, выпісвайце на імя скарбніка Згуртаваньня "Пагоня" *Viktar Yedzinovich.***

Шаноўныя сябры Згуртаваньня "Пагоня", калі ласка, сваечасова аплочвайце сяброўскія складкі й падпіску на інфармацыйны бюлетэнь ***"Весткі й Паведамленьні".***
*Інфармацыю пра стан падпіскі глядзіце на адраснай налепцы на канвэрце справа ад прозьвішча.*

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас:*
***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***
*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка "Пагоні" **Viktar Yedzinovich**.*